МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№1 (129)
студзень 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ВЫЙШАЎ ЧАРГОВЫ НУМАР "ЗАПІСАЎ БІНІМ"

Гэты нумар літаратурны. У ім друкуюцца артыкул Макса Шчура "Адзін лёс і "дзве" літаратуры" пра Міхася Кавыля, Ціхан Чарнякевіч аналізуе ліставанне Антона Адамовіча і Міхася Кавыля; Лявон Юрэвіч падрыхтаваў да друку артыкулы дзеяча БНР Тамаша Грыба.

*Працяг на стар. 3*

### ТРАДЫЦЫЙНЫЯ КАЛЯДЫ Ў ІРКУЦКУ ПРАЙШЛІ Ў АБЛАСНОЙ ФІЛАРМОНІІ

Сёлета Каляды прайшлі, як заўсёды, 7 студзеня. Сабралася каля сотні гледачоў.

*Працяг на стар. 4*

### ДЗІЦЯЧЫЯ ЯЛІНКІ ПРАЙШЛІ Ў ТАРОНТА І САЎТ-РЫВЕРЫ

На стары Новы год беларусы замежжа зладзілі для дзетак ялінкі.

*Працяг на стар. 5*

### У КАЛЯДНЫ ВЕЧАР У ТБК

У калядны вечар 29 снежня сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве сабраліся, каб правесці апошнюю імпрэзу ў 2012 годзе.

*Працяг на стар. 7*

ГУТАРКА

## ШЛЯХАМ КАРСКАГА ПРАЗ 100 ГАДОЎ

Нядаўна ў Варшаве выйшла манаграфія на польскай мове "Беларуская дыялекталогія" (Dialektologia białoruska). Яе аўтары – прафесар Ніна Баршчэўская (Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта) і доктар Міраслаў Янкавяк (Інстытут славістыкі Польскай Акадэміі навук).

Прапануем чытачам гутарку з Міраславам Янкавяком.



*Міраслаў Янкавяк падчас навуковай экспедыцыі ў вёсцы Стайкі Пінскага раёна*

**"Бацькаўшчына"**: Спадар Міраслаў, для манаграфіі "Беларуская дыялекталогія" было сабрана ў палявых умовах і прааналізавана шмат матэрыялу. Чыя была ўвогуле ініцыятыва такіх даследаванняў?

**Міраслаў Янкавяк**: Думка пра такую ідэю з'явілася некалькі гадоў таму, калі я пісаў магістарскую работу ў Цэнтры Усходняй Еўропы пра беларускага мовазнаўцу і этнографа Яўхіма Карскага як рэктара Імператарскага варшаўскага ўніверсітэта. Ён першы правёў комплексныя даследаванні беларускіх гаворак, апісваючы не толькі цэнтральныя рэгіёны, але таксама памежжы. Па-другое, на працягу некалькіх гадоў я ўдзельнічаў у праекце "Беларусь і памежжа Беларусі: гісторыя, культура, мова" пад кіраўніцтвам прафесара Эльжбеты Смулковай і доктара Анны Энгелькінг. Гэта ўсё было імпульсам для далейшых даследаванняў – шляхам Карскага 100 гадоў пазней. Ён большасць экспедыцыяў правёў як працаўнік Варшаўскага ўніверсітэта, чаму б не прадоўжыць гэтую традыцыю і цяпер? Першым крокам была кандыдацкая работа пра беларускія гаворкі ў Латгаліі. Пазней з'явілася думка, каб напісаць манаграфію "Беларуская дыялекталогія". Трэба было толькі знайсці добрага суаўтара, які разам са мной напіша такую вялізарную працу. Прафесар Ніна Баршчэўская згадзілася. Гэта былі тры гады выдатнага і плённага супрацоўніцтва. Спадарыня Ніна – гэта не толькі выдатны спецыяліст у гэтай тэме, але і адкрыты да новых ідэяў і маладых навукоўцаў чалавек.

**Б**: Каму гэтая манаграфія будзе цікавая ў першую чаргу?

**МЯ**: Па-першае, манаграфія накіраваная на палякаў, студэнтаў-беларусістаў і славістаў, а таксама польскіх філолагаў, каб яны мелі вялікі абсяг ведаў па гэтай тэме і не карысталіся стэрэатыпамі. Па-другое, мы хацелі ахапіць у нашай кнізе яшчэ не ахопленыя аспекты або якія былі замоўчаныя ў кніжках, выдадзеных у Беларусі. Таму больш падрабязна, напрыклад, мы апісалі беларускія гаворкі па-за межамі краіны – на Падляшшы, на Віленшчыне, у Латгаліі, на Пскоўшчыне, Смаленшчыне, Браншчыне і Чарнігаўшчыне. Сабраны намі матэрыял добра пацвердзіў, напрыклад, што беларускія моўныя рысы на Смаленшчыне, Пскоўшчыне ды Браншчыне ў нейкай ступені адлюстроўваюць даўнія межы ВКЛ і сёння.

**Б**: Ці плануецца пераклад кнігі на беларускую мову?

**МЯ**: На гэты момант мы не плануем выдаваць манаграфію на беларускай мове, таму што ў Беларусі надрукавана шмат выдатных прац па гэтай тэме. Але ёсць ідэя перакласці на англійскую, каб лінгвісты Вялікабрытанні, Нямеччыны ці ЗША, якія не валодаюць беларускай мовай, мелі свабодны доступ да матэрыялаў.

➲

**Б**: Раскажыце больш падрабязна, у якім кірунку будуць праводзіцца наступныя даследаванні і якую геаграфію яны ахопяць?

**МЯ**: Перад намі, беларусазнаўцамі, яшчэ шмат працы, падрабязных доследаў патрабуюць яшчэ і іншыя памежжы – я ўжо правёў уступныя палявыя даследаванні на Віленшчыне, улетку еду туды наноў. Несумненна, вельмі цікавым абшарам не толькі для беларусаў, але і для палякаў, выступае Смаленшчына, якая не дачакалася сучасных аб'ектыўных навуковых прац, датычных беларускіх гаворак, што ў нейкай ступені выклікана ненавуковымі фактарамі. Але тут вялікую і добрую працу робяць, напрыклад, стваральнікі сайта пра беларускую Смаленшчыну – я пад вялікім уражаннем ад іх дзейнасці. І застаецца Чарнігаўшчына, пра якую найменш ведаем.

**Б**: І напрыканцы раскажыце, калі ласка, як Вы асабіста зацікавіліся тэмай беларускіх дыялектаў?

**МЯ**: Для спадарыні Ніны гэта было натуральнае прадаўжэнне навуковай працы – беларускай дыялекталогіяй яна займаецца ўжо шмат гадоў, а да таго ж яна сама беларуска з Падляшша. У мяне трошкі інакш пачалася прыгода: дзядуля нейкі час пражываў на Палессі і расказваў мне пра Беларусь і беларусаў. Так я паступіў на кафедру беларусістыкі, займаюся Беларуссю ўжо 16 гадоў і пакінуў там частку свайго сэрца.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*




***

**Даведка**

Кніжка аўтарства польскіх беларусістаў прафесара Ніны Баршчэўскай (кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта) і доктара Міраслава Янкавяка (Інстытут славістыкі Польскай Акадэміі навук) налічвае 308 старонак і з'яўляецца вынікам трохгадовай працы. Праект ажыццяўляўся ў Інстытуце славістыкі ПАН пад кіраўніцтвам маладога славіста М. Янкавяка.

Даследаванні беларускай мовы ў Польшчы маюць доўгую традыцыю. Кніга Беларуская дыялекталогія з'яўляецца першай абагульняючай працай па гэтай тэме, якая выйшла не на беларускай мове. Аўтары прадставілі ў ёй не толькі стандартныя раздзелы, якія датычаць гэтай мовазнаўчай дысцыпліны, але таксама шырока закранулі тэму ўплыву балцка-славянскіх кантактаў на фармаванне беларускіх дыялектаў, а таксама больш падрабязна апісалі беларускія гаворкі па-за межамі краіны (на Беласточчыне, Віленшчыне, у Латгаліі, Пскоўшчыне, Смаленшчыне, Браншчыне і Чарнігаўшчыне).

Аўтары плануюць выдаць сваю манаграфію таксама на англійскай мове і рыхтуюцца ўжо да далейшых даследаванняў. Наступнай задачай з'яўляецца падрыхтоўка некалькіх манаграфій, прысвечаных беларускім гаворкам па-за межамі Беларусі.

*Паводле Андрэя Ціхамірава*

Nina Barszczewska, Mirosław Jankowiak, Dialektologia białoruska, Warszawa 2012, Slawistyczny Ośrodek Wydawniczy, ss. 308.

## БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК ДЗМІТРЫЙ ПЛАКС АТРЫМАЎ ПРЭМІЮ ШВЕДСКАЙ АКАДЭМІІ

Сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", беларускага пісьменніка і перакладчыка Дзмітрыя Плакса Шведская акадэмія ўзнагародзіла прэміяй у памеры 40 тысяч шведскіх крон за падтрымку шведскай культуры за мяжой.



У каментары для БелаПАН Дзмітрый Плакс адзначыў: "Гэтую прэмію далі не за нейкі асобны твор, які я пераклаў, а сукупна за шматгадовую працу на ніве беларуска-шведскай культуры, за ўсё тое, што было мной зроблена для азнаямлення беларусаў са шведскай мовай, літаратурай, культурай. Канечне, прыемна атрымаць такую прэмію, як і любую іншую. Але быць узнагароджаным Шведскай акадэміяй прыемна асабліва, бо акадэмія мае сваёй мэтай і задачай падтрымку мовы і літаратуры".

Дзмітрый Плакс стала жыве ў Стакгольме на працягу амаль дваццаці гадоў. Ён займаецца перакладам твораў шведскіх пісьменнікаў на беларускую мову. Так, у перакладзе Плакса выйшла ў свет кніга Астрыд Ліндгрэн "Піпі Доўгаяпанчоха" ў 2008 годзе. Зборнік паэзіі вядомай шведскай пісьменніцы Катарыны Фростэнсан на беларускай мове быў адзначаны ў спісе намінантаў на прэмію часопіса "ПрайдзіСвет" (prajdzisvet.org) як найлепшая перакладная кніга 2011 года.

У перакладзе Дзмітрыя Плакса ў Швецыі выйшлі кнігі Барыса Пятровіча "Фрэскі" і "Плошча", а таксама паэтычны зборнік Андрэя Хадановіча "Вольныя вершы". Цяпер у падрыхтоўцы да выхаду кніга "Вяртанне Веры" Уладзіміра Някляева. У 2004-2009 гадах Плакс быў стваральнікам і кіраўніком беларускай службы Радыё Швецыя. Апошнім часам пісьменнік піша п'есы і робіць для эфіру спектаклі пра знакавыя постаці розных краін. Так, на хвалях Радыё Швецыя, напрыклад, прагучала п'еса пра літаратара і праваабаронцу Алеся Бяляцкага.

*Паводле Асі Паплаўскай, БелаПАН*
*фота – Cato Lein, budzma.org*

## У ГАЙНАЎЦЫ АДКРЫЛІ ПОМНІК СТУДЗЕНЬСКАМУ ПАЎСТАННЮ

У Гайнаўцы каля касцёла Узнясення святога Крыжа 13 снежня адкрылі помнік паўстанцам Студзеньскага паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі 1863—1864 гг.

Помнік узнік па ініцыятыве дэпутата польскага Сейму Кшыштафа Юргеля, сенатара Яна Дабжаньскага ды дэпутатаў сойміка Падляшскага ваяводства ад партыі "Права і справядлівасць".

На цырымоніі асвячэння помніка драгічынскім біскупам Антонім Дыдычам прысутнічалі мясцовыя ўлады, школьнікі і прадстаўнікі каталіцкага і праваслаўнага духавенства.

Кшыштаф Юргель, прамаўляючы на цырымоніі, сказаў, што ў Студзеньскім паўстанні мелі месца больш за 1200 бітваў і сутычак. У змаганні супраць царскіх войскаў загінулі больш за 10 тысяч паўстанцаў, каля тысячы царскія ўлады павесілі, 38 тысяч выслалі на катаргу, а звыш 10 тысяч былых паўстанцаў эміgravалі.

У Гайнаўцы на Падляшшы каля 22 тысяч жыхароў. Паводле перапісу 2002 года, 26% з іх — беларусы. Паводле афіцыйных дадзеных на 2011/2012 школьны год, беларускую мову як прадмет у горадзе вывучалі 850 вучняў (350 у ліцэі ды 500 у пачатковых школах і гімназіях).

*Паводле "Радыё Свабода"*

# ВЫЙШАЎ ЧАРГОВЫ НУМАР “ЗАПІСАЎ БІНІМ”

Гэты нумар літаратурны. У ім друкуюцца артыкул Макса Шчура ”Адзін лёс і ”дзве” літаратуры” пра Міхася Кавыля, Ціхан Чарнякевіч аналізуе ліставанне Антона Адамовіча і Міхася Кавыля; Лявон Юрэвіч падрыхтаваў да друку артыкулы дзеяча БНР Тамаша Грыба.

Друкуюцца таксама артыкулы пра Юрку Віцьбіча, Уладзіміра Сядуру, артыкул кампазітара Алеся Карповіча, пераклад гогалеўскага ”Рэвізора” Антонам Адамовічам, які той зрабіў у гады нямецкай акупацыі.

Артыкулы: Норберта Рандава ”Багдановіч па-нямецку (бібліяграфія)”, ”Максім Багдановіч на старонках газэтаў ”Бацькаўшчына” й ”Беларус” ды інш.

**Ад рэдакцыі**

Беларуская літаратура на эміграцыі стала бадай што першай тэмай, якой зацікавілася метраполія ў часе ”адкрыцця” для сябе прысутнасці суайчыннікаў на Захадзе. Публікацыяў на гэтую тэму багата, але да сёння феномен літаратурнай творчасці па-за бацькаўшчынай, літаратурны працэс і творцы на чужыне, а таксама іх сувязі з Беларуссю застаюцца даследаванымі даволі фрагментарна. Многія эміграцыйныя літаратары пачыналі творчы шлях на радзіме, былі звязаныя з метрапольнай літаратурай, а ў іх архіўных зборах і творчасці ёсць шмат цікавага для беларускай культуры наогул.

Менавіта таму тэмай сёлетніх ”Запісаў” стала ўласна літаратура, не толькі эміграцыйная, а беларуская цалкам. Тэксты літаратурнай тэматыкі публікуюцца ў розных раздзелах нумару. Так, Макс Шчур і Ціхан Чарнякевіч у грунтоўных артыкулах з розных бакоў разглядаюць і рэпрэзентуюць творчасць эміграцыйнага дзеяча Міхася Кавыля. Юрась Бабіч засяроджваецца на каларыстычнай лексіцы ў творах Наталлі Арсеньевай, Арнольд Макмілін вывучае літаратурныя дачыненні Васіля Быкава й Рыгора Барадуліна.

Звязаныя з літаратурай і публікацыі архіваліяў, сярод якіх — тэксты Антона Адамовіча й Юркі Віцьбіча, прысвечаныя знішчэнню пісьменнікаў у міжваеннай Беларусі, датычны гэтай жа праблемы верш Змітра Віталіна ў публікацыі Віктара Жыбуля. Цікавыя таксама лісты Ларысы Геніюш да Наталлі Арсеньевай за 1944 г., якія прыадкрываюць нам асаблівасці дачыненняў дзвюх паэтак, а таксама лісты Васіля Быкава да Зоры й Вітаўта Кіпеляў. Працягвае літаратурную тэму апісанне Ціханам Чарнякевічам эпісталярнай спадчыны вядомага эміграцыйнага пісьменніка Масея Сяднёва, частка архіву якога захоўваецца ў мінскім БДАМЛіМе.




Асобна варта адзначыць публікацыю беларускага перакладу знакамітай камедыі Мікалая Гогаля ”Рэвізор”. Пераклад быў зроблены Антонам Адамовічам яшчэ ў 1943 г., але дагэтуль не друкаваўся й захоўваўся ў рукапісе ў архіве БІНіМа. Падрыхтаваны да друку Віялетай Кавалёвай, гэты тэкст публікуецца ўпершыню.

У раздзеле бібліяграфіяў — тэксты, таксама звязаныя з беларускай літаратурай, а дакладней, з адным з яе класікаў Максімам Багдановічам, чый юбілей шырока адзначаўся сёлета. Своеасаблівым унёскам ва ўшанаванне памяці паэта сталі бібліяграфія перакладаў ды прысвечаных яму публікацыяў на нямецкай мове, зробленая беларусістам Норбертам Рандавам, а таксама пералік прысвечаных паэту тэкстаў на старонках эміграцыйных газетаў ”Бацькаўшчына” і ”Беларус”, складзены Лявонам Юрэвічам. Апошняму належыць і публікацыя ў раздзеле ”Выданні”, датычная літаратурнага часопіса ”Шыпшына”, што выходзіў у 1947—1950 гг. У тэксце прадстаўленае калярэдакцыйнае ліставанне ды пададзены змест усіх выдадзеных і апошняга нявыдадзенага нумару перыёдыка.

Літаратурная тэматыка вызначыла і змест раздзелу ”Музей”. Тут публікуюцца здымкі з архіваў Антона Адамовіча ды Юркі Віцьбіча, што датычаць беларускіх пісьменнікаў даваеннага часу. Праўда, некаторыя здымкі са згаданых збораў выкарыстаныя ў гэтым нумары і як ілюстрацыі ўнутры асобных тэкстаў.

Традыцыйна на старонках ”Запісаў” публікуюцца тэксты, непасрэдна не звязаныя з тэмай нумару. Тут варта адзначыць своеасаблівы ”пражскі блок”, які складае публіцыстыка Тамаша Грыба, што плануецца ў будучыні для выдання асобнай кнігаю, а таксама публікацыя Макса Шчура, прысвечаная прысутнасці беларусістыкі на старонках пражскага часопіса ”Slovanský přehled” у 1925—1938 гг. З іншых пазіцыяў зместу сёлетніх ”Запісаў” варта адзначыць тэксты да гісторыі музыкі эміграцыйнага кампазітара і музыказнаўцы Алеся Карповіча, ліставанне Юркі Віцьбіча адносна антыбальшавіцкіх паўстанняў у Беларусі, а таксама дадаткі да ўспамінаў Франца Кушаля.

Надзвычай багатым атрымаўся сёлетні кніжны агляд, у якім згадваюцца больш за два дзясяткі выданняў, звязаных з замежжам тэматыкай або паходжаннем. Сабраныя ў гэтым нумары ”Запісаў” публікацыі дэманструюць цікавыя падыходы ў даследаванні літаратуры, рэпрэзентуюць новыя, раней не друкаваныя крыніцы, даюць зацікаўленым і навукоўцам новыя карысныя звесткі (бібліяграфіі, апісанні архіваў) для вывучэння беларускай літаратуры.

***

“Запісы БІНІМ (Беларускага інстытута навукі і мастацтва)” былі заснаваныя ў 1952 г. у ЗША. Першыя шэсць тамоў выйшлі ў 1952—1954 гг. у Нью-Ёрку, наступныя пяць — у Мюнхене (1962–1960), З 12 па 24-ты выдаваліся ў Нью-Ёрку (1974–1999). Ад 2001 г. (№ 25) ”Запісы БІНІМ” — сумесны мінска-ньюёрскі праект.

Дзе: ”Кніжны салон” (Мінск, Калініна, 5), Кнігарня ”Логвінаў” (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а), сайт knihi.by.

*“Наша Ніва”*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў лютым: Арсеня Ліса, Леаніда Лыча, Змітра Гаўрусіка (Беларусь), Аркадзя Крупеньку, Міколу Нікалаева (Расія), Васіля Астаповіча (Украіна). Зычым выдатнага здароўя, радасці і аптымізму, натхнення, дабрабыту і плёну ў працы.

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# Традыцыйныя Каляды ў Іркуцку прайшлі ў абласной філармоніі

Шаснаццаць з паловай гадоў існуе Рэгіянальнае грамадскае аб'яднанне "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага" (ІТБК), і за ўвесь гэты час традыцыя збірацца на Каляды не прыпынялася ні разу, а з 2007 года з'явілася яшчэ адна выдатная традыцыя: да нас на Каляды пачалі прыязджаць з канцэртнай праграмай знакамітыя артысты з Беларусі. Да нас завітвалі Кася Камоцкая, Віктар Шалкевіч, Зміцер Сасноўскі, Алесь Камоцкі, Таццяна Беланогая, Зміцер Вайцюшкевіч. А сёлета нас наведаў легенда беларускага рэпу Аляксандр Памідораў!

Вядома ж, казаць, што нам лёгка даецца запрашэнне знакамітых беларускіх артыстаў у Іркуцк на Каляды, было б не дакладна. Арэнда залы, аплата пералёту з Мінска ў Іркуцк і назад, экскурсіі, паездкі на Байкал і г.д. – гэта ўсё патрабуе значных выдаткаў. І кожны раз асабіста я не ўпэўнены, ці змагу знайсці грошы на чарговыя Каляды. Але, азіраючыся назад, ужо пасля правядзення свята, з упэўненасцю можна сказаць: добра, што да нас прыязджаюць такія таленавітыя зоркі беларускай песні.

Бо кожны такі прыезд прыносіць не толькі клопат, але і стварае святочны настрой на некалькі дзён. Хочацца падзякаваць усім артыстам з Беларусі за падтрымку нашага беларускага духу тут, у Сібіры! Мы вельмі радыя, што ў гэтыя святочныя дні вы былі з намі! Шкада, што кожная такая сустрэча мае эксклюзіўны характар, але можа быць якраз таму яна і асабліва каштоўная.

Сёлета Каляды прайшлі, як заўсёды, 7 студзеня. Гэтым разам мы сабраліся ў прасторнай зале абласной філармоніі. Сабралася каля сотні гледачоў.

Спачатку выступілі два нашыя іркуцкія фолькгурты "Ленушка" і "Крывічы". Фальклорны ансамбль "Ленушка" (паводле назвы паўночнай сібірскай ракі Лены, на берагах якой таксама сяліліся беларусы) і ансамбль аўтэнтычнай песні "Крывічы" крыху адрозніваюцца сваімі стылямі. У "Ленушкі" песні аўтарскія і народныя, часам у апрацоўцы, часта пад акампанемент, бадзёрыя і меладычныя. У "Крывічоў" – працяжныя баладныя і абрадавыя, выконваюцца толькі акапэльна, разлічаныя на шматгалоссе, традыцыйна "вясковыя", старадаўнія, але асабліва дарагія "бабуліны" песні, якія гучаць маладымі звонкімі галасамі.

І ўсё ж галоўная інтрыга сёлетніх Калядаў была наперадзе. Нашыя ансамблі саступілі сцэну госцю з Мінска Аляксандру Памідораву, які скарыў усіх гледачоў цудоўным майстэрствам ігры на дванаццаціструннай гітары. Аляксандр Памідораў на працягу гадзіны выконваў свае песні пад дружнае пляскание, а ў канцы яго выступу "нечакана" прыйшлі калядоўшчыкі з вясёлымі калядкамі і жартамі. "Каза" з "Ваўком" у скокі пайшлі, а "Мядзведзь" як давай "кола" па сцэне круціць, праз галаву куляцца – няйнакш з цырка збег! "Каза" ж у народ пабегла, а "Дзед" і кажа: "А Каза мая дужа чароўная! Калі паглядзіць каму ў торбачку ці сумачку якую, то будуць там у вас грошы цэлы год вадзіцца! А можа ў каго і даляры з еўра нават! Ну а каго мая Каза бадне рогам альбо пхне нагой, дык той здароўя на цэлы год прыдбае!"

А народ наш традыцыю памятае і выконвае! Як толькі "Каза" са сцэны скокнула, усе да яе і пацягнуліся. Сумачкі паказваюць, спінкі пад "рогі" падстаўляюць. А тыя, хто далёка сядзеў, з месцаў паўставалі, рукі працягваюць, толькі б "Каза" іх зачапіла: усім хочацца быць здаровым і багатым ў Новым годзе!

Але вось няўдача – "Каза наша ўпала, здохла, прапала!" І вось ужо за справу бярэцца прафесійны "Механоша", жартачкі прамовіў і таксама ў народ са словамі: "Нашай Козачцы нямнога трэба, два боханы хлеба, сем печ перапеч, а яшчэ аладкі, каб бакі былі гладкі, а яшчэ таго мала, дайце шматок сала, а хто харошы, хай насыпле грошы!" Ну як тут адмовіш? Гледачы нашыя шчодрыя сабраліся, у мех "Механошы" і цукерак накідалі, і манетак, і, як заўсёды, нехта паклаў традыцыйна прыгатаванага беларускага сала!

А калі "Механоша" ўсіх абышоў, "Дзед" і кажа: "Не хоча Каза ўставаць – трэба лекі ёй даць: нацерці бок кійком, падняць батагом. Каза мая вучоная, кіем хрышчоная, прайшла ўсе навукі, ведае розныя штукі. А ну, Каза, уставай, з хаты выхадзі, бяду вынасі. Уцякай хутчэй з гаспадарскіх вачэй! А ў гэтым доме не шкодзіць нікому! От, дзякуй вам, спадарства, за багатыя падарункі. Ну а зараз трэба нашыя Каляды затанчыць. Каб Шчасця на Новы год усім нам прыдбаць". Тут народ на сцэну дружна пайшоў, калядоўшчыкі спявалі, а астатнія дружна ў карагодзе хадзілі.

А напрыканцы зладзілі бяседу і танцы, без якіх нашыя Каляды ўжо таксама не абыходзяцца. "Маразулю", "Польку задам", "Марыненскі кракавяк" і г.д. танчаць з задавальненнем усе, незалежна ад узросту. Толькі пасля 15 танцаў народ, прытаміўшыся, пагадзіўся, што час, напэўна, і дадому збірацца.



*Калядоўшчыкі*

Вось так, весела і заўзята, прайшлі нашыя Каляды!

Ад імя Абласной Рады ІТБК усім удзельнікам свята велізарны дзякуй за захаванне нашых беларускіх традыцый! Ну а нашаму госцю з Мінска Аляксандру Памідораву дзякуй удвая, нават утрая! Па-першае, за прыезд на нашыя Каляды і прывітанне з Беларусі. Па-другое, за цудоўны канцэрт. Ну а па-трэцяе, як нехта заўважыў, Аляксандр прывёз да нас пацяпленне. Падчас яго канцэрту было ўсяго -15. Спякота. Бо напярэдадні даходзіла да -40!

Напрыканцы хачу ўсіх членаў ІТБК і нашых сяброў, усіх жыхароў Прыбайкалля і іншых рэгіёнаў Расіі, а таксама чытачоў нашай "Маланкі" з замежных краін павіншаваць з Калядамі і Новым 2013 годам!

Здароўя вам, дабрабыту і шчырага кахання!

*Паводле Алега Рудакова*

# Беларускія калядкі ў Пецярбургу

9 студзеня ў Малой зале Санкт-Пецярбургскай Акадэмічнай Філармоніі імя Д.Д. Шастаковіча адбыўся канцэрт "Каляды-2013". У рамках праграмы прадстаўнікі беларускага і ўкраінскага зямляцтва праспявалі беларускія і ўкраінскія калядкі. Беларускія калядкі выканаў спявак Лявон Габрусёнак (клуб "Беларусы Пецярбурга"). У праграме таксама выступіў камерны хор "Россика" пад кіраўніцтвам Валянціна Капылова-Панчанкі, які выканаў музыку Раства ад пятроўскага часу да нашых дзён: "Пятроўскія святкі", Пятроўскія канты, "Калядны каляндар" і інш.

*belspb.info*

## КАЛЯДЫ НА ХУТАРЫ ЛЯ НОВАБЯРОЗАЎКІ

У снежні 2012 года ў Цюменскай вобласці шырока, ярка і запамінальна прайшлі Дні беларускай культуры, прымеркаваныя да 15-годдзя "Нацыянальна-культурнага таварыства "Аўтаномія Беларусь". За 15 гадоў працы былі ўсталяваныя цёплыя сяброўскія сувязі з беларусамі ў месцах кампактнага пражывання на поўдні вобласці. У асноўным гэта вёскі, заснаваныя ў 1886-1889 гадах беларускімі перасяленцамі, так званымі "самаходамі". Прайшло больш за сто гадоў, а жыхары, адарваныя ад гістарычнай радзімы, здолелі зберагчы сваю культуру, традыцыі, абрады, песні, касцюмы, мову. І, вядома ж, святы. У першую чаргу – прастольныя, супольныя, якія аб'ядноўваюць і натхняюць людзей. Адным з такіх святаў і ёсць Каляды.

І вось мы (Раман Фёдараў – навуковы супрацоўнік Цюменскага аддзялення САРАН і Уладзіслаў Татарынцаў – намеснік старшыні праўлення НКТ "Аўтаномія Беларусь") на куццю адправіліся ў Арамашэўскі раён у вёску Новабярозаўка. За размовамі незаўважна праляцелі 4 гадзіны дарогі, што яшчэ раз пацвердзіла думку: "Славяне лепш за ўсё сябе адчуваюць у дарозе". На двары мінус 25. "Студзень хаты студзіць – рана гаспадароў будзіць".

Папіўшы з дарогі гарачай гарбаты і пераапрануўшыся ў нацыянальныя строі, усе адправіліся калядаваць. Наперадзе нашай групы з "каляднай зоркай" – сімвалам шчасця і дабрабыту – ішоў Мікалай Васільевіч Сальнікаў, дырэктар клуба вёскі Новабярозаўка. Ён шмат гадоў запар, таксама як калісьці і яго бацька, у дзень слаўлення Хрыстова выносіць "зорку" для аднавяскоўцаў, і дзякуючы яму ў яго роднай вёсцы так, як больш нідзе ў вобласці, захаваўся і праводзіцца гэты абрад.

Я адчуў велізарную ўдзячнасць да ўсіх удзельнікаў. Цяжка нават уявіць, як гэтыя людзі змаглі дакладна сыграць мелодыю беларускіх песень, асвоіць шматгалоссе, непаўторную манеру выканання, удалечыні ад радзімы сваіх продкаў. Якая патрэбна была любоў да бацькаўскіх святыняў, каб так беражліва данесці іх да нашых дзён, не разгубіўшы, перадаць сваім дзецям... Хочацца спадзявацца, што ўбачанае дазволіць маладым пакаленням раскрыць свае творчыя здольнасці, і яны гэтак жа, як іх бацькі і дзяды, кожныя Каляды будуць выходзіць на сельскія вуліцы, з песнямі і калядкамі, паважаючы звычаі, услаўляючы Хрыста.

Ветлівыя асобы, прыгожыя касцюмы, рознажанравыя песні і калядкі на беларускай і рускай мовах зрабілі гэтае каляднае свята незабыўным!

*Паводле Уладзіслава Татарынцава*

## ДЗІЦЯЧЫЯ ЯЛІНКІ ПРАЙШЛІ Ў ТАРОНТА І САЎТ-РЫВЕРЫ

На стары Новы год Галоўная ўправа Згуртавання беларусаў Канады і царква св. Кірылы Тураўскага зладзілі дзіцячую "Ялінку", якая штогод адбываецца ў памяшканні беларускага грамадска-рэлігійнага цэнтра ў Таронта.

Праграма "Ялінкі" была насычанай і інтэнсіўнай. Тэатралізаваная інтэрактыўная казка "Рэпка", пастаноўка песні "Раз марозною зімой", карагоды вакол ялінкі, аркестр Дзеда Мароза і сапраўдныя каляднікі з песнямі і гульнямі не далі засумаваць ні бацькам, ні дзеткам. А ахвотнікаў распавесці верш, праспяваць ці станчыць і атрымаць падарунак ад Дзеда Мароза было столькі, што давялося займаць чаргу!

Дарэчы, сёлета дзяцей чакалі незвычайныя падарункі, якія бацькі самі змайстравалі падчас пасядзелак жаночага клубу, нядаўна ўтворанага на базе ЗБК. Мамы і таты падрыхтавалі столькі ўнікальных і сапраўды па-мастацку зробленых цацак, што ў выніку ўсе дзеці, якія прыйшлі на ялінку, атрымалі непаўторныя ёлачныя ўпрыгожанні ў выглядзе розных істот, ад кажаноў да хамелеонаў, і да іх паштоўкі-фотаздымкі. А выстава дзіцячай творчасці "Калядны настрой-2013" аздобіла памяшканне беларускага цэнтра малюнкамі і самаробкамі і сапраўды стварыла ўтульна-калядны настрой.

Цудоўным завяршэннем свята сталіся салодкія пачастункі і дзіцячая дыскатэка пад музыку з "Дзіцячага альбома".

13 студзеня, напярэдадні старога Новага года, у горадзе Саўт-Рывер у штаце Нью-Джэрсі таксама ладзілася традыцыйная калядна-навагодняя ялінка для дзяцей.

Праграма складалася з амерыканскіх і беларускіх калядак, дэкламацый і танцаў. На вялікай пажарнай машыне прыехаў Дзед Мароз з торбай падарункаў. Дзеці абяцалі яму добра вучыцца ды слухацца бацькоў. Святочную праграму падрыхтавалі прыхаджанкі царквы св. Еўфрасінні Полацкай: спадарыні Тацццяна Дзямешчык і Віла Ляўчук. Задаволеныя святкаваннем былі ўсе: бабулі, дзядулі, бацькі, а найбольш дзеці.

*Паводле Ірыны Тоўсцік і "Нашай Нівы"*

## КРУГЛЫ СТОЛ НА ТЭМУ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА ПРАЙШОЎ У ІРКУЦКУ

26 студзеня ў Іркуцку адбыўся Круглы стол на тэму "Паўстанне 1863 года: факты і каментары". Прысутнічала больш за 30 чалавек. Былі два тэлеканалы, журналісты газет, чыноўнікі, навукоўцы, палякі, украінец, рускія, але больш было беларусаў – чалавек 20. Прагучалі даклады: агульныя пра паўстанне (прычым і з беларускага боку, і з польскага), даклад пра Кастуся Каліноўскага, пра "Мужыцкую праўду", пра сасланых паўстанцаў-беларусаў у Іркуцк (Ян Чэрскі, Віткоўскі, Зяновіч, Свіда, Аскірка і інш.).

Адбылася жывая і цікавая дыскусія. Выказваліся супрацьлеглыя погляды, але ніхто не "пабіўся". А потым за кубачкам гарбаты ўдзельнікі спрэчак дык і зусім змякчэлі, хаця й наўрад ці прыйшлі да згоды. А ўвогуле карысную справу зрабілі. Разыходзіліся, зычліва паціснуўшы адно аднаму рукі. Дзякуй усім за ўдзел!

*Паводле Алега Рудакова*

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДЫ Ў АМЕРЫКАНСКІМ САЎТ-РЫВЕРЫ

Каляды адсвяткавалі ў амерыканскім Саўт-Рыверы, што ў Нью-Джэрсі. Мястэчка, дарэчы, пакрысе аднаўляецца ад наступстваў урагану Сэндзі, што пашкодзіў некалькі дзясяткаў дамоў.

Царкву св. Еўфрасінні Полацкай упрыгожылі кветкамі, паставілі ялінку. Напярэдадні свята, пасля вячэрні, у зале Беларуска-амерыканскага грамадскага цэнтра адбылася супольная традыцыйная куцця.

Айцец Міхаіл прачытаў малітву, людзі падсілкаваліся смачнай поснай ежай са шклянкай віна. Царкоўны хор праспяваў калядкі, адну амерыканскую і некалькі беларускіх.

У Дзень Хрыстовага Нараджэння багаслужба прайшла ўрачыста пры напоўненай вернікамі святыні. Дзень быў пагодны, сонечны. Людзі абменьваліся падарункамі, святочнымі і навагоднімі пажаданнямі, весткамі пра жыццё сваякоў у Беларусі.

*Паводле "Нашай Нівы"*

## АБВЕСТКА

Дзякуем за падтрымку дзейнасці Згуртавання **Алесю Карповічу**, **Сільвестру і Каталіне Будкевічам**!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ
# (1938–2013)



Памёр гісторык Міхась Чарняўскі. Гэта здарылася раніцай 20 студзеня. Чарняўскаму ішоў 75-ы год.

Міхась Чарняўскі быў гісторыкам, археолагам, краязнаўцам, сябрам МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Ён быў у тым гурце людзей, якія ў савецкі час у Мінску прынцыпова гаварылі па-беларуску і фармавалі падпольны рух за незалежнасць.

Ён нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна. Гісторыяй, археалогіяй захапіўся ўжо ў дзяцінстве. Яшчэ ў юнацтве сутыкнуўся з улёткамі Смаргонска-Мядзельскага незалежніцкага падполля, групы Расціслава Лапіцкага. Яны выклікалі вялікія перажыванні ў душы падлетка, што і сам бачыў русіфікацыю і несправядлівасць савецкага рэжыму.

Вучыўся ў Мінску, стаў навукоўцам. Разам з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазняком быў удзельнікам клуба вальнадумнай беларускай інтэлігенцыі "Акадэмічны асяродак", разгромленага ў 1973–1974 гадах. Міхась Чарняўскі тады быў звольнены з працы, сутыкнуўся з КДБ. Нягледзячы на пераплёты ўласнага жыцця, Чарняўскі знаходзіў магчымасць падтрымліваць Уладзіміра Караткевіча, Ларысу Геніюш і дзясяткі простых беларускамоўных хлопцаў і дзяўчат, далучаў іх да грамадскай дзейнасці.

У 1988–1989 гадах Чарняўскі быў сярод стваральнікаў Народнага Фронту, адраджаў сацыял-дэмакратыю.

Як навукоўца Міхась Чарняўскі вывучаў нёманскую археалагічную культуру і крывінскі варыянт нарвенскай культуры, даследаваў крэмнездабыўчыя шахты ў Ваўкавыскім раёне, помнікі каменнага і бронзавага веку ў іншых мясцінах Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы "Гісторыі беларускага мастацтва", "Археалогіі Беларусі" і "Гісторыі Беларусі" ў шасці тамах. Кансультаваў энцыклапедыю "Археалогія і нумізматыка Беларусі" і Энцыклапедыю гісторыі Беларусі.

Міхась Чарняўскі напісаў і захапляльныя дзіцячыя кнігі пра старажытныя часы: "Страла Расамахі", "Вогнепаклоннікі".

Яго зацікаўленасці не абмяжоўваліся старажытнай гісторыяй. Дзеля папулярызацыі забытых старонак гісторыі Беларусі Чарняўскі напісаў кнігі "Правадыр крылатых вершнікаў Ян Кароль Хадкевіч", "Дзесяць бітваў" і "Як пошуг маланкі. Расціслаў Лапіцкі". Апошняя вяртала гісторыі забытае імя аднаго з удзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву.

Гэтым летам Міхась Чарняўскі збіраўся здзейсніць даўнюю мару — зладзіць раскопкі гарадзішча ў роднай вёсцы. Цяпер гэта мусіць зрабіць ягоны сын, таксама археолаг. Пахаванне Міхася Чарняўскага адбылося 22 студзеня на радзіме, у вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Развітанне, якое доўжылася больш за паўтары гадзіны, прайшло 22 студзеня ў Доме Смутку ў Мінску. Кветкі да труны прынеслі больш за 100 чалавек, якія стаялі ў чарзе, бо рытуальная зала была перапоўненая.

Слова бралі Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Алег Трусаў. Адыход Міхася Чарняўскага яны называлі нацыянальнай стратай для Беларусі, згадвалі, што спадар Чарняўскі стаяў ля вытокаў БНФ, ТБМ, "Грамады". Пра Чарняўскага казалі як пра чалавека, які адкрываў гісторыю Беларусі для новых пакаленняў, меў цвёрды дух, верыў у незалежнасць краіны, шмат цярпеў за свае перакананні.

Да века труны быў прымацаваны бел-чырвона-белы сцяг. Адпяваў нябожчыка Апостальскі візітатар для грэка-католікоў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

*Паводле "Нашай Нівы", "Радыё Свабода"*

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім спадара Чарняўскага. Вечны супакой яго душы!*

# ЮРЫ ГУМЯНЮК
# (1969–2013)



Юры Гумянюк загінуў 19 студзеня. Ён выпаў з 9-га паверха ў інтэрнаце непадалёк ад прыватнага дома, у якім ён жыў з маці-пенсіянеркай.

Гумянюк працаваў на Беларускую рэдакцыю Польскага радыё. Слухачам ён быў вядомы пад псеўданімам Вацлаў Галімскі. Праграмы ягонага аўтарства ішлі таксама на незалежным радыё "Рацыя", што вяшчае з Польшчы.

Як паэт 43-гадовы Юры Гумянюк пісаў у спецыфічнай дэкадэнцкай манеры. Яго захапляла стылістыка і эстэтыка міжваеннага часу. Гумянюк быў яркім аўтарам з групы гарадзенскіх мадэрністаў 1990-х. На 1990-я прыпаў і пік ягонай творчай актыўнасці.

Юрыя Гуменюка пахавалі 23 студзеня ў Гародні на камунальных могілках на праспекце Касманаўтаў.

***

Юры Гумянюк нарадзіўся 24 верасня 1969 года ў Гродне. Друкаваўся з 1990 г. Скончыў аддзяленне паланістыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (1994). Там жа вучыўся ў аспірантуры. На гродзенскім абласным радыё рыхтаваў літаратурна-мастацкі радыёчасопіс "Кантэкст" (1991–1994). Працаваў журналістам у газетах "Пагоня" (1992, 1995–2001) і "День" (2004), загадчыкам літаратурнай часткі Гарадзенскага абласнога тэатра лялек (1994–2000). З 2002 года — публіцыст беластоцкага месячніка "Czasopis". Выдаў зборнікі вершаў "Водар цела" (1992), "Твар Тутанхамона" (1994), "Рытуал" (1999), "Лябірынты прывіднага замку" (2000, у суаўтарстве), "Вуліца тыгровых архідэяў" (2003). Аўтар няскончанага рамана "Апосталы нірваны" (кн. першая 1995), пастаўленых у Гродзенскім тэатры лялек п'есаў для дзяцей "Баль у барона Мюнхгаўзена" (1993), "Таямніца залатога пярсцёнку" (1998), "Каляднае падарожжа" (1999), дакументальнай сагі "Прывід даўніх Крэсаў" (2004–2005), шэрагу крытычных артыкулаў пра літаратуру, выяўленчае мастацтва і тэатр. Сурэдактар літаратурна-мастацкага альманаха "Калоссе". Беларускія рок-гурты "Грунвальд", "Айша" (Jungle X-mas), а таксама асобныя выканаўцы стварылі на тэксты Юрыя Гуменюка каля двух дзясяткаў песень.

Вечная памяць!

*Паводле "Нашай Нівы"*

# У калядны вечар у ТБК

У калядны вечар 29 снежня сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве сабраліся, каб правесці апошнюю імпрэзу ў 2012 годзе. Распачаў яе сябра рады ТБК Валеры Радзюкевіч, які і быў у гэты раз вядучым.

Першым выступіў актыўны сябар Таварыства, рэдактар беларускай праграмы на літоўскім радыё Андрусь Старавойтаў, які распавёў пра святога Яўстафія, аднаго з трох віленскіх пакутнікаў, парэшткі якіх знаходзяцца ў Святадухавым праваслаўным манастыры ў Вільні. Сярод многіх беларускіх дзеячоў, пісьменнікаў існуе думка, што святы Яўстафій быў беларусам, з чым не пагадзіўся выступоўца Андрусь Старавойтаў. Ён адзначыў, што ў афіцыйных дакументах на гэта няма ніякіх указанняў. І другі факт, які яго схіляе да гэтай думкі, – Масква вельмі паважна ставіцца да культу трох віленскіх пакутнікаў, а, як вядома, яна вельмі неталерантная да чужой культуры, традыцый, вераванняў. Таму, з яго словаў, калі б ён быў бы беларусам, Масква проста знішчыла б цела, і культ трох віленскіх пакутнікаў быў бы забытым.

У снежні споўнілася 70 гадоў з моманту пакутніцкай смерці аднаго з найбольш слаўных сыноў беларускай зямлі ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Яго служэнне было прыкладам самаахвярнай адданасці Бацькаўшчыне і сведчаннем яго ўсёабдымнай і неабсяжнай любові да Беларусі. На жаль, сёння не хапае святароў такога кшталту. У тыя складаныя гады міжваеннай Беларусі ў Польшчы ён не толькі прапаведаваў Слова Божае на беларускай мове, але дапамагаў беларусам быць беларусамі. Вядома, яго дзейнасць не падабалася польскім уладам, за што ён неаднаразова пераследаваўся і судзіўся польскімі ўладамі. У 1927 годзе за сваю дзейнасць быў асуджаны на два гады турмы.

Старшыня ТБК Хведар Нюнька ўзгадаў пра вядомага літоўскага навукоўца Тодара Іваноўскага (Тадаса Іванаўскаса), які паходзіў са славутага беларускага роду і быў родным братам вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага. Так сталася, што гэтая сям'я дала дзеячоў для трох народаў: беларусаў, палякаў, літоўцаў. Так скаліся абставіны, што спадар Хведар быў знаёмы з Тадасам Іванаўскасам, які ў яго быў выкладчыкам, калі ён навучаўся ў Коўна. Там Тадас Іванаўскас выкладаў дысцыпліну, звязаную з птушкамі. Варта адзначыць, што ён высока цаніўся ў Літве і СССР як навуковец і быў даволі багатым. Сам жа Хведар Нюнька шкадуе, што хоць і змог з ім пасябраваць, аднак да канца так і не зблізіўся з гэтай асобай і не з'ездзіў з ім на яго радзіму ў Беларусь.

Артур Юдыцкі ў сваім дакладзе закрануў праблему знішчэння беларускай мовы ў БССР, а таксама і ў сённяшняй Беларусі. Ягоны выступ быў прысвечаны з'яўленню ў 1957 годзе ў ЛІМе артыкула Барыса Сачанкі супраць ігнаравання беларускай мовы ў школьным навучанні. Ён першым на ўвесь голас падняў трывогу ў канцы 1957 года ў сваім артыкуле "Шанаваць родную мову". Сачанка на довад сваіх сцверджанняў аб дэградацыі беларускай мовы прывёў шмат аўтэнтычных фактаў. Каб надаць большую палітычную вагу сваім словам ды, відаць, застрахавацца перад абвінавачаннем у "нацыянальнай абмежаванасці й вылучнасці", аўтар, працытаваўшы словы Леніна: "Члены РКП на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца й гаварыць ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы русіфікатарскім спробам адцясніць украінскую мову на другі план, ператвараючы яе ў асяродак камуністычнай адукацыі народных мас", – заканчвае свой артыкул высновай: "Гэта ленінскае палажэнне поўнасцю адносіцца й да нашай беларускай мовы".

Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, сферы ўжывання беларускай мовы ўвесь час звужаліся. Крыўдна і тое, што сёння яна таксама цалкам ігнаруецца, прычым не толькі афіцыйнымі ўладамі, але і беларускай апазіцыяй.

Вядучы Валеры Радзюкевіч у сваім выступе распавёў пра вядомага беларускага паэта, вязня канцлагераў Сяргея Грахоўскага. У заключэнні сваёй прамовы ён зачытаў верш "Шлюб" гэтага паэта, каб прадэманстраваць талент генія.

На вялікі жаль, у сённяшняй Беларусі паэты не шануюцца і мала вядомыя. Таму трэба прапагандаваць іх імёны як мага шырэй.

Напрыканцы імпрэзы сваім выступам нас парадаваў украінскі хор "Світліца". Сталася ўжо добрай традыцыяй, што ўкраінскія сябры стала нас наведваюць. І вельмі прыемна ў іх бачыць родныя душы, бо ў многім праблемы, з якімі сёння сутыкнуліся беларусы, падобныя і да ўкраінскіх, перадусім русіфікатарскія працэсы, якія працякаюць на нашых землях.

*Паводле Валера Радзюкевіча*
*і Алеся Адамковіча.*
*Цалкам артыкул чытайце на сайце*
*zbsb.org*

# У Маскве з аншлагам прайшоў вечар беларускай мовы

Кажа палітолаг і эканаміст Дзмітрый Балкунец: "Сустрэча была вельмі цікавая. Быў вялікі аншлаг. Прыйшло каля 50 чалавек. Арганізатарам была беларуская журналістка Кацярына Кібальчыч. Людзі ў вельмі цікавай, гульнёвай форме вучылі беларускую мову (тыя, хто яе не ведае) ці спрабавалі неяк размаўляць па-беларуску".

Кацярына Кібальчыч — лаўрэат прэміі "Залатое пяро Расіі-2010" у намінацыі "Спецыяльны карэспандэнт". Уганараваная за серыю рэпартажаў на Першым расійскім канале з "гарачай кропкі", якой у снежні 2010 года стала яе радзіма — Беларусь. Яна ж — рэжысёр неаднаразова адзначанага на міжнародных фестывалях дакументальнага фільма "Беларуская мара", прысвечанага выжыванню беларусаў ва ўмовах дыктатуры з фіналам на ўсё той жа плошчы Незалежнасці. Цяпер Кацярына ўзялася за новы праект пад двухсэнсоўнай назвай "Мова ці кава": "Чаму я ўвогуле вырашыла рабіць такі праект? Нядаўна чытала апытанне мінскіх студэнтаў: чаму яны не размаўляюць на роднай мове? І там часцей за ўсё фігуравалі два адказы. Найперш, мы не ведаем добра мовы, таму размаўляць саромеемся (то бок, не мовы самой саромеюцца людзі, а саромеюцца дрэнна размаўляць). Другая прычына — проста няма з кім размаўляць. І мне здаецца, што курсы беларускай мовы для трасянкамоўных ці расійскамоўных беларусаў вырашаюць абедзве гэтыя праблемы".

Арганізатары спадзяюцца, што наступным разам прыйдзе яшчэ больш людзей.

Вечары беларускай мовы будуць праходзіць кожны панядзелак, а 20-й гадзіне ў маскоўскай кавярні "Старбакс" (метро "Кузнецкі мост").

*Паводле "Нашай Нівы" і*
*"Радыё Свабода"*

# АЛЕНА АНІШЭЎСКАЯ (1927–2013)



У Варшаве на 86-м годзе жыцця памерла беларуская пісьменніца і грамадская актывістка Алена Анішэўская, аўтар зборніка апавяданняў і вершаў "Смак жыцця", зборніка "Шчадруха", якія можна пачытаць на kamunikat.org. Алена Анішэўская была шчыльна звязана з беларускім асяроддзем Падляшша, хаця большасць свайго жыцця пражыла ў Варшаве. Заўсёды тужыла па Белавежы, дзе яна нарадзілася і пражыла свае маладыя гады.

Год таму спадарыня Алена Анішэўская была героем передачы "Радыё Рацыя" "З Падляшша родам": "Я нарадзілася ў маі месяцы, можа, гэта таксама мае нейкае значэнне, хто калі родзіцца, такі, можа, характар мае, у 1927 годзе. Я была старэйшай у сям'і, нас было чацвёра. Жылі мы на першых Падалянах у Белавежы гады чатыры-пяць, пакуль бацькі не збудавалі свайго дома на так званых другіх Падалянах. Там дагэтуль яшчэ недзе "тырчыць" нашае карэнне ў гэтай сядзібе".

Алену Анішэўскую пахавалі ў Варшаве на могілках "Волі".

Светлая памяць!

*Паводле racyja.eu*



## "БЕЛАРУСЫ УРАЛА" ЗБІРАЮЦЬ ГРОШЫ НА ПОМНІК МУЛЯВІНУ

"Цяпер стаіць пытанне выбару месца, а потым будзе конкурс і шырокі збор сродкаў. Мы ў дыяспары паціху пачынаем збіраць, але разумеем, што гэта няпростая задача", — заявіў 10 студзеня ў Магілёве намеснік старшыні рады арганізацыі "Беларусы Урала" Павел Саенка.

Паводле яго словаў, ініцыятыва ўсталявання помніка Мулявіну зыходзіць ад "Беларусаў Урала" і беларускага пасольства ў Расіі, яе падтрымалі гарадскія ўлады. Цяпер у Екацерынбургу на сцяне пяціпавярховага дома, дзе жыў Мулявін, усталяваная мемарыяльная дошка.

Саенка адзначыў, што дакладную суму, неабходную на стварэнне і ўсталяванне помніка, будуць вызначаць яго аўтары, а конкурс на стварэнне помніка, магчыма, будзе абвешчаны па ўсёй Расіі.

Як мяркуе Саенка, помнік ураджэнцу Екацерынбурга Уладзіміру Мулявіну з'явіцца ў горадзе ў 2014 годзе.

*"Наша Ніва"*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛЮТЫ 2013 ГОДА

2 лютага – 175 гадоў таму ў в. Мастаўляны (цяпер Беластоцкі пав. Падляскага ваяв., Польшча) нарадзіўся Кастусь Каліноўскі (1838-1864), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

4 лютага – 205 гадоў таму ў фальв. Панюшкавічы (цяпер Бабруйскі р-н) нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808-1884), паэт, драматург, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

4 лютага – 35 гадоў таму ў Нясвіжы памёр Аркадзь Куляшоў (1914-1978), паэт, перакладчык. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

6 лютага – 115 гадоў таму ў Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Леў Акіншэвіч (1898-1980), беларуска-ўкраінскі гісторык, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у Нью-Ёрку.

8 лютага – 120 гадоў таму ў Санкт-Пецярбургу нарадзіўся Антон Неманцэвіч (1893-1943), уніяцкі святар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў.

9 лютага – 100 гадоў таму, у 1913-м, у Вільні адбылася першая пастаноўка п'есы Янкі Купалы "Паўлінка".

10 лютага – 145 гадоў таму ў г. Табольск, Расія, нарадзіўся Карусь Каганец (сапр. Казімір Кастравіцкі; 1868-1918), паэт, пісьменнік, перакладчык, мастак, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху.

14 лютага – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Рыдзе (Аўстрыя) на сходзе беларусаў лагера для перамешчаных асобаў (ДП) было створана Згуртаванне Беларусаў у Аўстрыі. Першы старшыня Аляксандр Яцэвіч (Змагар).

18 лютага – 120 гадоў таму ў в. Малая Багацькаўка (цяпер Мсціслаўскі р-н) нарадзіўся Максім Гарэцкі (1893-1938), пісьменнік, літаратуразнавец, фалькларыст, лексікограф, мысляр.

21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.

23 лютага – 110 гадоў таму ў м. Будслаў (цяпер Мядзельскі р-н) нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903-1989), педагог, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1970–1982 гг.

27 лютага – 90 гадоў таму, у 1923-м, у Празе створаны клуб "Беларускі сокал" — патрыятычна-спартыўная арганізацыя беларускіх студэнтаў (дзейнічала да канца 1924 г.).

28 лютага – 100 гадоў таму ў г. Мітава (цяпер Елгава, Латвія) нарадзіўся Аляксей Шудзейка (1913-1969), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№1(129), студзень 2013

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27